№201 (2014)
Аўторак, 26 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +9...+11, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +11...+13, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +9...+11, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, сонечна, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## Заява МЗС Польшчы

Міністэрства замежных спраў Польшчы заклікала беларускі ўрад "спыніць выкарыстанне аўтарытарных прыёмаў, што супярэчаць асноўным еўрапейскім каштоўнасцям палітычнага ладу ўсіх сучасных дэмакратычных дзяржаў". Пра гэта гаворыцца ў заяве польскага МЗС, распаўсюджанай прэс-службай пасольства Польшчы ў Мінску.

Як зазначаецца ў заяве, МЗС Польшчы занепакоены тым, што пры правядзенні выбарчай кампаніі ў парламент Рэспублікі Беларусь, а таксама падчас саміх выбараў былі парушаны "элементарныя дэмакратычныя нормы, што вынікаюць як з міжнародных абавязацельстваў Беларусі, так і з нацыянальнага заканадаўства". Асабліва сур'ёзную запепакоенасць выклікаюць "рэпрэсіі, скіраваныя супраць дзеячаў апазіцыі, — збіццё і арышты, а таксама абмежаванні свабоды выбару і свабоды аб'яднанняў".

Польшча выказвае спадзяванне, што "беларускай грамадскасці будзе дадзена магчымасць свабоднага развіцця, не абмежаванага фізічным або адміністрацыйным націскам".

МЗС заяўляе, што Рэспубліка Польшча будзе падтрымліваць ініцыятывы міжнародных арганізацый, скіраваныя на аднаўленне ў Беларусі грамадзянскай супольнасці. "Польшча будзе дзейнічаць з мэтай вяртання Беларусі да практыкі павагі дзяржавай элементарных грамадзянскіх правоў", — гаворыцца ў заяве.

"Міністэрства глыбока пераканана, што толькі такім чынам — шляхам павагі дэмакратычных норм і выканання сваіх міжнародных абавязацельстваў у гэтай галіне — Беларусь зможа зноў заняць належнае ёй месца ў сям'і еўрапейскіх народаў".

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Павялічаны квоты на пастаўку на экспарт калійных угнаенняў

Урад Беларусі сваёй пастановай павялічыў квоты на пастаўку на экспарт калійных угнаенняў у 2004 годзе з 3 млн. 640 тыс. тон да 4 млн. 640 тыс. тон.

Паводле інфармацыі канцэрна "Белнафтахім", патрэбнасць унутранага рынку ў калійных угнаеннях сёлета ў цэлым задаволена. У той жа час узрастае попыт на гэтую прадукцыю на знешнім рынку. У сувязі з гэтым канцэрн і ВА "Беларуськалій" выступілі з прапановай аб павелічэнні экспартных квот. Калійныя ўгнаенні з'яўляюцца адной з важнейшых пазіцый беларускага экспарту, і павелічэнне іх паставак дасць магчымасць забяспечыць дадатковы прыток у рэспубліку валютных паступленняў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Ствараецца унікальны біялагічны заказнік

Эколагі Брэста завяршаюць распрацоўку навуковага і тэхніка-эканамічнага абгрунтавання новага біялагічнага заказніка "Соя", які будзе размешчаны практычна ў межах горада: на левым беразе ракі Мухавец, побач з Брэсцкай крэпасцю.

Вядучы навуковы супрацоўнік аддзела праблем Палесся Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Віктар Дзямянчык паведаміў, што толькі ў гэтым кутку Беларусі гняздуюцца фазаны. Два гады таму тут знойдзена вельмі рэдкая птушка кваква, якая звычайна селіцца ў глухіх трыснёговых зарасніках балот. Заказнік "Соя" будуць адрозніваць ад іншых і самыя вялікія ў Беларусі папуляцыі самай маленькай на планеце расліны — вольфіі. А па шчыльнасці рэдкіх відаў, занесеных у Чырвоную кнігу, на адзінку плошчы новы заказнік нават пераўзыходзіць Нацыянальны парк Белавежская пушча".

Брэсцкія эколагі спадзяюцца, што жывы музей прыроды будзе карыстацца папулярнасцю і ў жыхароў абласнога цэнтра і яго гасцей. Дарэчы, фауну і флору новага заказніка ўжо высока ацанілі арнітолагі са Швейцарыі, якія гэтым летам наведалі запаведны куток Брэстчыны.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## «Дзвінскі бровар» загаворыць з баварскім акцэнтам

Да шасці гатункаў піва, згатаваных паводле сапраўднай баварскай рэцэптуры, будзе выпускаць старадаўні Віцебскі піўзавод, будаўніцтва новых карпусоў якога пачалося днямі. У гэтых унушальнага выгляду гмахах размесціцца нашчадак даўно вядомага завода — сумеснае беларуска-германскае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Дзвінскі бровар".

Мясцовае піва з баварскім смакам будзе сур'ёзным канкурэнтам аналагічным напоям іншых піўзаводаў вобласці і краіны. Яно будзе прадавацца ў бляшанках па 0,33 і 0,5 літра і ў шкляных бутэльках гэткай жа ёмістасці.

Паводле слоў дырэктара будуемага прадпрыемства беларуса Мікалая Кавалькова, новая транснацыянальная вытворчасць будзе мець самае сучаснае тэхналагічнае абсталяванне ад лепшых у Еўропе пастаўшчыкоў, а працэс вырабу прадукцыі будзе поўнасцю аўтаматызаваны. Высокая якасць патрабуе немалых выдаткаў: толькі на водападрыхтоўку мяркуецца асігнаваць 350 тысяч еўра. Шмат грошай трэба аддаць і на будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, якія дазволяць цалкам нейтралізаваць вытворчыя скіды.

Цяпер спецыялісты завода знаходзяцца ў Германіі, дзе праходзяць вытворчую практыку пад кіраўніцтвам баварскіх тэхнолагаў і рыхтуюць абсталяванне да перавозкі ў Віцебск. Сюды ж будзе запрошаны спрактыкаваны баварскі півавар, каб на месцы вучыць беларусаў сакрэтам прыгатавання ячменнага напою па-германску.

Першая чарга абноўленага з дапамогай замежных інвестараў завода разлічана на выпуск 1 мільёна дэкалітраў піва за год, а ў далейшым магутнасць "Дзвінскага бровара" павялічыцца ўдвая.

Заснавальнікамі сумеснага прадпрыемства з'явіліся Віцебскі аблвыканкам, прыватная абутковая фабрыка "Марка" і яе нямецкі партнёр — фірма "Эвімэкс".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Да ўвагі чытачоў!

27 кастрычніка — планавы нявыхад "Народнай волі".
Наступны нумар газеты чакайце ў чацвер, 28 кастрычніка!

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

**НА ЧЫСТУЮ ВАДУ**

# Як скралі галасы выбаршчыкаў з вуліцы Мірашнічэнкі

17 кастрычніка нам давялося быць назіральнікамі на выбарчым участку №524 г, які месціўся ў сярэдняй школе №148 г.Мінска. У сувязі з гэтым маем жаданне выканаць свой грамадзянскі абавязак і сказаць праўду пра ход галасавання і падлік галасоў на гэтым участку.

Да нас прыходзілі галасаваць жыхары дамоў №12, 14, 16, 18 па вуліцы Мірашнічэнкі, а кандыдатамі ў дэпутаты праходзілі Вячорка, Крук і Даронін.

У доўгім памяшканні, дзе нават адсутнічала якая-небудзь інфармацыя пра кандыдатаў, нас пасадзілі як мага далей ад скрыняў, куды апускалі бюлетэні. Ад старшыні камісіі мы не маглі дабіцца звестак ні аб колькасці выбаршчыкаў па спісе, ні аб колькасці выдадзеных на ўчастак бюлетэняў, як быццам гэта інфармацыя найвялікшай сакрэтнасці.

Паколькі ўвесь час мы вялі свой паралельны падлік тых, хто прагаласаваў, нам было няпроста са сваіх месцаў трымаць у полі зроку ўсіх і сачыць за іх дзеяннямі. Нас было трое, і нават зважаючы на тое, што пагрэшнасць у падліках пры такіх ўмовах можа быць вялікай, канчатковая колькасць тых, хто прагаласаваў, атрымалася ў нас прыблізна аднолькавая. Але вось выявілася наша першая "нестыкоўка" з тымі дадзенымі, якія старшыня выбарчай камісіі Краўчук падаў напрыканцы дня: ягоныя звесткі аб прагаласаваўшых розніліся ад нашых прыкладна на 200—300 чалавек. Прычым раней, паколькі мы сачылі, якія лічбы Краўчук агучвае па тэлефоне, яны з нашымі супадалі. Тады ўзнікае пытанне: навошта старшыня камісіі занізіў яўку ў дзень выбараў? Адзінае лагічнае тлумачэнне наступнае: канчатковыя пратаколы і лічбы былі падрыхтаваныя загадзя, і тыя, хто гэта рабіў, не чакалі вялікай актыўнасці насельніцтва і змаглі адкарэкціраць выніковыя дадзеныя толькі на наступны дзень. Нам жа здаецца, прычым без усялякай нацяжкі, улічваючы паводзіны большасці выбаршчыкаў, тое, што яны казалі назіральнікам, актыўнасць моладзі, якая звычайна на выбары не ходзіць, што высокая яўка 17 кастрычніка насіла "пратэстны" характар.

Асаблівых парушэнняў падчас галасавання мы не заўважылі, акрамя беспрэцэдэнтнага дзяржаўнага подкупу выбаршчыкаў шляхам бясплатнай "дэгустацыі" розных напояў (чай, кава, піва) у школьным буфеце.

Самае агіднае пачалося пасля галасавання. Старшыня камісіі ніяк не зрэагаваў на нашае патрабаванне пагасіць нявыкарыстаныя бюлетэні да пачатку падліку галасоў, як патрабуе працэдура. Некалькі папер былі разарваныя толькі пасля канчатковага падліку. Прычым гэтыя бюлетэні выносіліся з іншага пакою, у які члены камісіі заходзілі і падчас падліку.

На два сталы пасярод памяшкання вывалілі бюлетэні са скрыні датэрміновага галасавання. І толькі тут мы зразумелі, чаму ўсе бюлетэні — і рэферэндуму, і за дэпутатаў — кідаліся ў агульную скрыню. Бо разгледзець на адлегласці, што робяць члены выбарчай камісіі з такой вялікай колькасцю папер, было цяжка. Але мы "праціснуліся" як мага бліжэй да сталоў, дзе лічыліся галасы. Першыя лічбы са скрыні датэрміновага галасавання былі агучаны адразу пасля падліку: "за" змяненне Канстытуцыі прагаласавала 205 чалавек, "супраць" — 108, за Крука — 211, несапраўдных — 3, за Вячорку — 42, за Дароніна — 10, супраць усіх — 37, несапраўдных — 16. Потым прынеслі другую скрыню, якая стаяла далей ад кабінак, і была менш запоўненая. З таго месца, дзе мы стаялі, было даволі добра бачна толькі бюлетэні рэферэндуму, і мы пачалі за імі ўважліва сачыць: колькасць лістоў "супраць" уражвала. Далей, убачыўшы, да каго з членаў камісіі патрапілі бюлетэні, мы пачалі лічыць і рабіць свой падлік па рухах іх пальцаў, па тым, як яны гарталі адзін за адным бюлетэні. Такім чынам, вельмі прыблізна налічылі штосьці каля 300. "На вока" — суадносіны лістоў "за" Лукашэнку і "супраць" яго было як адзін да трох.

Нашыя самастойныя падлікі былі заўважаныя, і сакратарка камісіі засланіла ад нас стол літаральна сваім целам.

Але самае жахлівае адбылося пры падліку трэцяй скрыні, найвялікшай, якая стаяла побач з кабінамі. Калі члены камісіі з фантастычнай хуткасцю пачалі раскладваць бюлетэні, мы паспелі заўважыць толькі, куды яны кладуць тыя, што былі пра рэферэндум. І тады атрымалася наступнае: член камісіі Ірына Анатольеўна Драгун самы вялікі стос перавярнула "тварам" уніз і пачала яго лічыць! Сакратарка камісіі побач лічыла стос разоў у сорак меней. Папярэдняга раскладвання бюлетэняў на "за" і "супраць" проста не было, і таму ўпэўненыя, што бюлетэні былі абсалютна вольна падзелены на два нераўназначныя стосы быццам бы "за" і "супраць". Прычым усе лісты пры гэтым ляжалі "тварам" уніз. Калі мы ўказалі старшыні камісіі на гэтае парушэнне і папрасілі паказаць нам першых дзесяць бюлетэняў са стоса, які быў "за", ён спачатку разгубіўся і узяў некалькі зверху, потым іх разгледзеў, перамовіўся з Драгун і паклаў на месца. Ізноў лагічнае тлумачэнне — або гэтыя лісты былі ўсе "супраць", або разам і "за" і "супраць", але ў любым выпадку яны іх не маглі нам паказаць.

Што датычыцца бюлетэняў за кандыдатаў, дык кантроль за іх падлікамі, хаця б зрокавы, весці з адлегласці было немагчыма. Фальсіфікацыі былі зроблены груба, нахабна і на нашых вачах. Прычым і маладыя, і старэйшыя члены камісіі рабілі гэтую крымінальную справу з нейкай паспешлівай хуткасцю і радасцю. Так, быццам яны дзеці і не ведаюць, што такое ўзяць грэх на душу, а наперадзе іх чакае... цукерка.

Сам падлік бюлетэняў прайшоў надзвычайна хутка, але "звядзенне" лічбаў заняло ў старшыні прыблізна 40 хвілін. На пытанне прысутных "Чаму так доўга?", старшыня з усмешкай адказаў: "Да подождите, у нас тут нестыковки". Якія мудрагелістыя "нестыкоўкі" ўзніклі пры звыклым праўдзівым падліку, можна толькі здагадвацца...

Падпісаць акт аб парушэннях пры падліку галасоў старшыня камісіі Краўчук адмовіўся і нават папрасіў аддаць гэты акт яму, маўляў, сам перадасць куды трэба. Бюлетэні хуценька запячаталі, а ўсе гэтыя маніпуляцыі баранілі некалькі міліцыянтаў і вайскоўцаў, якія падчас падліку галасоў маўкліва стаялі за нашымі спінамі. Вось гэткім чынам і атрымалася на ўчастку №524 — 1076 "за" змяненне Канстытуцыі і толькі 313 "супраць", 705 галасоў за кандыдата Крука і толькі 301 за Вячорку, 35 за Дароніна.

**Ларыса АНДРОСІК,**
**Алена АРЭШКА,**
**Валянціна ПІКУЛІК,**
**назіральнікі.**

# Народны помнік Васілю Быкаву



Здаецца, зусім нядаўна беларускі НАРОД праводзіў у апошні шлях свайго слыннага сына, сусветнавядомага пісьменніка **Васіля Быкава.** Адбылося развітанне, але памяць аб ім будзе пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Памяць народная аб Народным пісьменніку.

Як стала вядома з абвесткі РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр", 2 лістапада 2004 года, на Дзяды, у Мінску, на Усходніх могілках адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка Васілю Быкаву. Пачатак — у 17.00. Падчас імпрэзы будзе арганізаваны збор ахвяраванняў на ўшанаванне памяці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

**Сцяпан КУХАРЧУК.**

**ЕСТЬ ИДЕЯ!**

# Давайте жить в долг

Если посмотреть на бытовую технику, которой пользуется большинство белорусских семей, то мы увидим, что ей уже много лет. Телевизоры, холодильники, пылесосы в массе своей представляют устаревшие образцы, молодость которых пришлась на доперестроечные годы. Техника энергоемкая, коекак работает. Почему же не заменяем ее на более современные образцы? Ответ простой — нет свободных денег. Кстати, не все семьи имеют даже устаревшие образцы, у некоторых, особенно молодых, нет даже такой бытовой техники.

В то же время в Беларуси есть целый ряд предприятий, производящих современную бытовую технику. Это объединения "Горизонт", "Витязь", "Атлант", "Белвар". Они работают далеко не на полную мощность, могли бы нарастить выпуск товаров, но нет спроса из-за недостатка денег у населения.

Есть ли выход из создавшегося положения? Есть. Это жить так, как живет весь цивилизованный мир. То есть жить в кредит. Широкое распространение кредита позволило бы населению приобрести современные образцы техники и дало бы возможность белорусским предприятиям значительно увеличить выпуск бытовой техники, улучшить свое финансовое положение, получить средства для дальнейшего развития и обновления производства.

Все это так, возразят скептики, но уж больно сложная процедура получения кредита — нужно собирать справки, искать поручителей и т.д. Но мир нашел цивилизованные формы решения этой проблемы — развитие банковских **кредитных** карточек.

В Беларуси коммерческие банки, особенно в последнее время, довольно активно наращивают выпуск банковских пластиковых карточек. Но эти карточки — так называемые дебетовые, то есть расходовать деньги с них можно, только предварительно положив их туда. Чаще всего это карточки, на которые предприятия перечисляют заработную плату своим работникам, которые тут же снимают с них наличные деньги в ближайшем банкомате.

Правда, в последнее время при помощи этих карточек стало возможным оплачивать квартплату и услуги связи. Кредитные карточки, широко распространенные во всем мире и дающие возможность воспользоваться банковским кредитом, у нас в стране практически не применяются. А почему — никто объяснить не может.

По моему мнению, широкое распространение кредитных карточек помогло бы решить многие проблемы. Инициатива здесь должна принадлежать коммерческим банкам. Любому обратившемуся в банк гражданину РБ, имеющему постоянный источник дохода и собственность, должен дифференцированно устанавливаться предельный размер кредита в зависимости от величины дохода (в пределах трех-пятимесячного дохода) при сравнительно невысоких процентах. В рамках этого лимита человек в любой момент сможет получить денежные средства для необходимых ему целей с обязательством возврата в определенные сроки и выплаты процентов. Это позволит банку стать финансовым посредником для тех, кто имеет свободные денежные средства, и тем, кто в них нуждается. Таким образом, он станет обслуживать движение финансовых потоков. **Потребители** смогут немедленно приобрести необходимые современные товары и услуги национальных производителей, **а предприятия** получить значительный объем платежеспособного рынка на выпускаемые ими товары.

**Александр ГУБАРЕВИЧ,**
**доцент.**

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

# Запахло дефолтом?

С начала года объем рублевой денежной массы увеличился на 32,6 процента и составил 4,5 триллиона рублей. Инфляция на 1 сентября составила 8,9 процента. Объем наличных денег в обращении тоже увеличился, но при этом его доля в общем объеме денежной массы снизилась.

По данным Национального банка Беларуси, объем наличных денег в обращении составил 1,1 триллиона рублей и увеличился по сравнению с 1 сентября 2003 года на 42,7 процента. С начала года объем наличных денег в обращении увеличился на 24,1 процента. Доля этого показателя в объеме рублевой денежной массы уменьшилась с 28,3 процента на начало сентября прошлого года до 25,4 процента на эту же дату в нынешнем году. Объем безналичных денег на 1 сентября 2004 года составил 3,4 трлн. рублей, или 74,6 процента от объема всей рублевой денежной массы.

Темпы инфляции в Беларуси стали разительно отличаться от темпов прироста денежной массы. Этому есть объяснение — происходит так называемое ее "стягивание". Экс-председатель правления Нацбанка **Станислав Богданкевич** напоминает о том, что еще лет десять назад открывались специальные счета в коммерческих банках, на которых хранилась излишняя денежная масса. Сегодня такие счета тоже должны существовать. А, кроме того, лишние деньги оказываются на депозитах населения. В самом деле, статистика постоянно отмечает рост рублевых вкладов, а значит, есть возможность сдерживать инфляцию, не выключая печатный станок.

Цены растут не слишком быстро еще и потому, что они достигли мирового уровня — некоторые товары в Беларуси стоят уже дороже, чем у ближайших соседей, говорит Станислав Богданкевич. Например, продукты. Дальше расти ценам просто некуда. *"Инфляция сдерживается этим фактором мировых цен,* — заявил он в интервью *"Белорусским новостям". — Поэтому у нас уже пару лет имеет место отставание роста цен от роста рублевой денежной массы".*

Искусственная стабилизация через некоторое время может обернуться сокрушительным обвалом, предполагает эксперт. В прошлом году ВВП вырос на 7 процентов, а кредитные вложения увеличились более чем на 70 процентов. В реальном отношении денежная масса выросла на 34 процента. В любом случае этот показатель опережает рост ВВП и инфляцию, а значит, через несколько лет страна может оказаться в состоянии дефолта.

Так было в Аргентине, в России, в Южной Корее, когда финансовая система внезапно рушилась.

Подобный эксцесс, по мнению Станислава Богданкевича, можно предотвратить путем оздоровления всей экономики. Но в этом направлении никаких шагов правительством не предпринимается, поэтому не исключено, что в один несчастливый день наша страна может оказаться в глубоком финансовом кризисе. Причем — собственного производства.

**Юлия ШАРОВА.**
*("Белорусские новости".)*

# Валовый рост — коту под хвост?

Белорусское правительство подвело итоги 9 месяцев работы экономики. Согласно официальным данным, прирост ВВП по сравнению с аналогичным периодом прошлого года составил 10,8%.

Официальные источники особенно отмечают значительное снижение уровня инфляции, которое было зафиксировало в текущем году. *"В июле 2004 года в Беларуси впервые за период новейшей истории была отмечена нулевая инфляция. На данный момент этот показатель составляет 0,1%. В целом инфляция за 9 месяцев текущего года составила 9% — это лучший показатель за последние 10 лет",* — сообщает пресс-служба белорусского президента.

Кроме того, по сообщению пресс-службы, с января по сентябрь в экономику было инвестировано более 6 триллионов белорусских рублей (рост на 20%).

В правительстве ожидают, что объемы экспорта по итогам текущего года вырастут почти на 30% по сравнению с предыдущим годом.

Следует отметить, что нынешний рост экономики и в частности рост экспорта во многом связаны с увеличением спроса на белорусские товары со стороны России, где появились дополнительные средства в результате роста мировых цен на нефть. Об этом, в частности, упоминает в своей статье в "Российской газете" известный российский аналитик **Сергей Караганов**. *"Минску вслед за нами везет: там налицо экономический рост, вызванный ростом цен на нефть. Увеличился платежеспособный спрос из России. Беларусь выигрывает из-за того, что у нее на территории много предприятий нефтепереработки",* — пишет Караганов.

Комментируя *"Белорусским новостям"* отчет правительства по итогам 9 месяцев работы экономики, экономист **Ярослав Романчук** сказал: *"Правительство верно ведет корабль в социалистическую экономику, на выполнение прогнозных показателей этого года и досрочное выполнение планов пятилетки".*

Романчук напомнил, что методика, которой пользуется правительство при расчете основных макроэкономических показателей, по-прежнему отличается от международных признанных методик. Как известно, в апреле этого года миссия МВФ отметила, что правительственные данные по росту ВВП незначительно, но все же отличаются от данных, полученных международными экспертами (разница составляет примерно 1-1,5%). В то же время Ярослав Романчук подчеркнул: *"Конечно, даже при учете таких расхождений рост есть. Но ведь дело не только в валовом росте, но и в том, что делать с выручкой, насколько эффективно используются инвестиции, выходит ли страна на новые рынки — это вопросы, которые по-прежнему остаются открытыми".*

По мнению экономиста, сегодня ведущие исследовательские центры мира используют другие индикаторы для определения эффективности экономики страны. *"Сами по себе рост ВВП и валовые инвестиции мало интересуют потенциальных инвесторов и предпринимателей, которые заключают с нашей страной некие торговые сделки. То, что у нас научились выполнять план по валу — не более чем дань советским традициям. В то же время ничего не говорится о перспективной конкурентоспособности, индексе экономической свободы, оценке рисков, доверии кредиторов — именно эти индексы вычисляют ведущие исследовательские организации мира, и они становятся базой для определения качества экономики страны",* — сказал Ярослав Романчук.

**Мария ФЕДОРОВА.**
*("Белорусские новости".)*

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Владимир Дражин кораллы не коллекционирует. Зато дарит

***Недавно вице-премьер Владимир Дражин подарил Гомельскому областному краеведческому музею коралл весом 20 килограммов. В сопроводительном письме написано, что коралл — из собственной коллекции Владимира Нестеровича.***

Коллекция морских организмов Гомельского краеведческого музея насчитывает около пяти тысяч предметов. Большая ее часть приобретена у гомельчанки **Лидии Малаховой**. Как рассказали в музее, кораллы — хобби Лидии Федоровны. Свою коллекцию она собирала на протяжении 17 лет: привозила кораллы с различных пляжей, обменивалась экземплярами с другими коллекционерами. Сейчас она частенько заходит в музей, любуется морскими организмами.

Коралл **Владимира Дражина** — самый большой в музейной коллекции. Правда, подарка вице-премьера пока нет в общей экспозиции.

*"Он пока хранится у нас в фондах,* — говорит хранительница музейного фонда **Татьяна Шода.** — *Коралл должен быть хорошо укрыт стеклянным колпаком, который защитит его от посетителей, желающих потрогать экспонат и обломать. Сейчас для него приобретается специальное музейное оборудование. Место, где он будет экспонироваться, уже определено".*

"Народная воля" поинтересовалась, откуда у Дражина коралл.

— У меня коллекции кораллов нет и не было, — рассказывает Владимир Нестерович. — Нынешним летом этот уникальный морской организм мне подарили российские друзья. Коралл привезли с Дальнего Востока. Я решил, что он должен находиться в Гомельском областном краеведческом музее как национальное достояние.

**— А Вы вообще что-нибудь коллекционируете?**

— Системно ничего не коллекционирую. Но люблю поделки в национальном стиле: из дерева, соломки. На моей родине в Стародорожском районе Минской области живет великолепный народный мастер. У меня дома есть некоторые его работы.

**— Владимир Нестерович, Вы все подарки, которые Вам дарят, в музеи отправляете?**

— Подарков мне много не дарят. Но если дарят что-то крупное, имеющее определенную ценность, конечно, стараюсь передать в музей, чтобы вещь работала на общество, на государство, на людей. Это мой принцип.

**Марина КОКТЫШ.**



**На фото:** *Владимир Дражин примеряет тюбетейку, подаренную ему представителями узбекской общины во время проведения V Всебелорусского фестиваля национальных культур.*

**Фото photo.bymedia.net**

ПУЛЬС

## Знойдзены тры падпольных міні-заводы па вытворчасці самагону

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі абласнога УУС Аляксей Левановіч, на тэрыторыі Осаўскага сельскага Савета ў Кобрынскім раёне ў лясным масіве знойдзены і знішчаны 2,5 тоны брагі, а таксама канфіскаваны прыстасаванні для вырабу самагону ў вялікай колькасці. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты чатыры мясцовых жыхары. Неабходна зазначыць, што ў верасні на тэрыторыі гэтага сельсавета таксама быў знойдзены міні-завод і 2 тоны брагі.

Яшчэ большая колькасць "зыходнага матэрыялу" для вытворчасці самагону знойдзена ў адным з лясных масіваў у Пружанскім раёне: знішчана 5,5 тоны брагі, канфіскавана 4 самагонных апараты.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Уцякаюць з месца здарэння

З 22 па 31 кастрычніка ў Гомельскай вобласці ДАІ праводзіць шэраг прафілактычных мерапрыемстваў па выкананні хуткасных рэжымаў удзельнікамі дарожнага руху пад назвай "Хуткасць".

Галоўнай мэтай прафілактычнага тыдня "Хуткасць", зазначыў інспектар па прафілактыцы і прапагандзе батальёна дарожна-патрульнай службы ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама Андрэй Лаўшук, з'яўляецца прафілактыка аварый, звязаных з перавышэннем хуткасці руху. На працягу тыдня будзе ўзмоцнены кантроль на дарогах, плануецца таксама правядзенне размоў з кіроўцамі. Перавышэнне хуткасці — сур'ёзная праблема для рэгіёна. З пачатку года было зарэгістравана 52 здарэнні з прычыны перавышэння хуткасці, у іх загінулі 14 чалавек, яшчэ 56 атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці.

Усяго з пачатку года на Гомельшчыне зарэгістравана 584 дарожна-транспартных здарэнні, у якіх загінуў 141 чалавек, у тым ліку 5 дзяцей. Амаль 250 ДТЗ адбыліся з удзелам пешаходаў. У 73 выпадках кіроўца і пешаходы знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Яшчэ адной праблемай у рэгіёне, паводле слоў А.Лаўшука, стала павелічэнне колькасці ДТЗ, удзельнікі якіх — вадзіцелі — уцякаюць з месца здарэння. Толькі за мінулы тыдзень было шэсць такіх выпадкаў. Пяцёра вадзіцеляў, удзельнікаў гэтых інцыдэнтаў, знойдзены і будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за неаказанне дапамогі пацярпелым. А ўсяго з пачатку года ў 84 выпадках вадзіцелі ўцякалі з месца здарэння.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Праект «Народны артыст-2» пакінула беларуска Дар'я Урызчэнка

Па выніках галасавання гледачоў, якое прайшло пасля канцэрта, стала вядома, што два прадстаўнікі краіны трапілі ў лік аўтсайдэраў. Так, Д.Урызчэнка набрала менш за ўсё галасоў — 3,8 % (10-е месца), а Таццяна Казючыц — 5,6%, забяспечыўшы сабе 8-е месца і абагнаўшы ўкраінку Паўліну Дзмітрэнка (4,4%, 9-е месца).

Цікава, што адразу два члены журы — кампазітар, прадзюсер Кім Брэйтбург і спявачка Лайма Вайкуле — у сваіх прагнозах выказалі меркаванне, што гледачы не прагаласуюць за Т.Казючыц.

Цяпер фіналістаў засталося дзевяць, і змагацца за званне "Народнага артыста", апрача Т.Казючыц, будуць працягваць беларусы Руслан Аляхно і Вера Карэтнікава.

Чарговы канцэрт, калі праект пакіне яшчэ адзін удзельнік, можна будзе ўбачыць у эфіры ГНТ 29 кастрычніка.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Незвычайныя знакі

Арыгінальныя ўязныя знакі з'явіліся ля ўездаў у населеныя пункты ў Кобрынскім раёне Брэсцкай вобласці.

Як паведамілі БелаПАН у мясцовым райвыканкаме, уязныя знакі — гэта своеасаблівая візітоўка населеных пунктаў, таму да іх вырабу вырашылі падысці нефармальна. Апрача таго, што яны маюць сучасны дызайн, кожны з гэтых знакаў нясе яшчэ і важныя дадатковыя звесткі. На іх можна прачытаць, калі населены пункт упершыню ўзгадваецца ў гістарычных дакументах, якія найбольш важныя вехі яго гісторыі, якімі традыцыямі і рамёствамі славяцца яго жыхары. Першыя такія незвычайныя знакі ўжо ўпрыгожылі ўезды ў вёскі Магдалін, Повіць, Гарадзец, Грушава і Верхалессе.

## Адкрыта выстава «Саламяны вернісаж»

Выстава "Саламяны вернісаж" адкрыта ў Брэсце ў абласным грамадска-культурным цэнтры.

Экспазіцыя прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння "маці беларускай саломкі" Веры Гаўрылюк, якая ў 1965 годзе прыйшла працаваць на Брэсцкую фабрыку сувеніраў і пачала адраджаць забытае рамяство продкаў. Апрача твораў самой Веры Гаўрылюк, на цяперашняй выставе дэманструецца каля 300 розных работ амаль двух дзесяткаў лепшых майстроў з усіх рэгіёнаў Брэсцкай вобласці.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Развітанне з Веранікай Чаркасавай

Тыдзень таму Вераніка Чаркасава, наведаўшы бацькаву магілу ў Калодзішчах, у тэлефоннай размове сказала сяброўцы: "Цяпер, калі на магіле стаіць добры помнік, я спакойная". Праваслаўны крыж з паліраванага граніту дзякуючы яе клопату з'явіўся на месцы пахавання тыднем раней. А ў мінулую суботу яе саму пахавалі побач з бацькам. Вераніка Чаркасава была рэлігійным чалавекам. Адпявалі яе ў кафедральным Свята-Духавым саборы. Сярод мінскіх праваслаўных святынь яна шанавала гэтую найбольш. Развітацца з журналісткай прыйшло шмат людзей. У асноўным — калегі. Канешне ж, побач з труною ішлі гаворкі пра трагічныя абставіны яе смерці. Журналісты і ў жалобе застаюцца журналістамі, таму кожны імкнуўся высветліць, што ведаюць іншыя. На жаль, вядома няшмат. Толькі тое, што было паведамлена афіцыйна, ды яшчэ тое, што справа перададзена з раённага на гарадскі ўзровень.

У калег Веранікі Чаркасавай выклікае насцярожанасць тое, што так званая бытавая версія трактуецца як асноўная, а ў якасці запасной разглядаецца варыянт забойства журналісткі раз'юшанымі сатаністамі, якіх яна нібыта зачапіла сваімі публікацыямі. Тыя, хто ведаў яе як чалавека і быў знаёмы з яе стылем работы, адзначаюць добразычлівасць і карэктнасць публікацый Веранікі. У яе не магло быць ворагаў. Зрэшты, яна была веруючай хрысціянкай, і яе жыццёвая філасофія была скіравана да вечных маральных каштоўнасцяў. Апошнім часам яна працавала ў недзяржаўнай ( а значыць, па вызначэнні — апазіцыйнай) газеце, і шэраг яе матэрыялаў быў прысвечаны дзейнасці КДБ.

Над труною прагучалі словы, якія сябры не паспелі сказаць Вераніцы Чаркасавай пры жыцці. Добрыя словы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

РЕЦЕНЗИЯ

# Дипломатия без... дипломатичности

**Владимир НИСТЮК, первый заместитель председателя БСДП (НГ), член Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов с правом совещательного голоса**

В государственных газетах опубликовано заявление МИД Республики Беларусь. Остаться равнодушным к такому документу просто невозможно.

Бравурным маршем звучит первый абзац о том, что *"проведенные в Республике Беларусь выборы в Палату представителей и республиканский референдум показали убедительную поддержку белорусским народом курса на укрепление суверенитета и независимости Беларуси, дальнейшего становления ее демократических институтов"*. На основании каких фактов сделаны такие выводы? Вопросы, касающиеся суверенитета и независимости страны, ни в какой форме на референдуме не ставились. Нет фактов, свидетельствующих о становлении в стране демократических институтов. Скорее практика проведения кампании дала примеры, позволяющие сделать абсолютно противоположные выводы.

Почему-то белорусское дипломатическое ведомство считает явным критерием прозрачности выборов факт приглашения большого числа международных наблюдателей. Много — не значит хорошо. Выборы и республиканский референдум — это не пятидневное вкидывание в ящики бюллетеней на глазах наблюдателей. Это продолжительные по времени кампании, включающие в себя создание избирательных комиссий, выдвижение и регистрацию кандидатов в депутаты, ведение предвыборной агитации, организация голосования, подведение итогов голосования и т.д. А некоторые наблюдатели только отметились в Беларуси в течение последних дней перед выборами.

Вот и давайте разберемся с понятиями, отделим, как сказал один очень известный политический деятель, мух от котлет.

Прежде всего есть необходимость уточнить понятие "независимый наблюдатель". Если представители Парламентского собрания Беларусь—Россия и Парламентской ассамблеи СНГ являются народными избранниками, депутатами, то по установившейся практике их поездки для наблюдения за выборами являются служебными командировками и финансируются той страной, парламент которой они имеют честь представлять. Кроме того, по итогам командировки каждый из них впоследствии будет отчитываться перед своими коллегами.

Так и осталось в тайне, кто и на основании чего приглашал, кто направлял и, главное, налогоплательщик какой страны оплачивал белорусский круиз некоторых из зарубежных гостей.

**Формальное** присутствие большой группы гостей из СНГ и нескольких непонятно кого представлявших граждан из некоторых других стран **только** на этапе голосования не может называться полномасштабным наблюдением за процессом. Оно представляло из себя не более чем политический туризм, когда, согретые вниманием минской и региональной знати, так называемые "наблюдатели" вместе с охраной и сопровождающими их официальными лицами объезжали избирательные участки (читай — "потемкинские деревни") для получения довольно поверхностных впечатлений. Некоторые из них перед телекамерами потом хвастались, что ухитрились посетить до 30 избирательных участков. Что мог при таком олимпийском темпе увидеть такой наблюдатель?

Статья 47 Избирательного кодекса Республики Беларусь гласит: "Кандидаты в Президенты Республики Беларусь, в депутаты, их доверенные лица, организации и лица, агитирующие за избрание кандидатов, за или против вопросов, вынесенных на референдум, не вправе раздавать гражданам подарки и иные материальные ценности, проводить льготную распродажу товаров, бесплатно предоставлять любые услуги и товары, кроме агитационных печатных материалов, специально изготовленных для избирательной кампании, проведения референдума с соблюдением требований настоящего Кодекса. При проведении предвыборной агитации, агитации по референдуму запрещается воздействовать на граждан обещаниями передачи им денежных средств, материальных ценностей".

Только слепой не мог за три дня до референдума не увидеть в каждом почтовом ящике страны сногсшибательный по объему тираж спецвыпуска "Советской Белоруссии" с агитацией за референдум и выносимый на него вопрос! Кстати, общая сумма бесплатных экземпляров, подаренных избирателям, составляет десятки миллионов рублей. А с избирательной кампании была снята кандидат в депутаты Сусанна Фурса из Минска за то, что по сигналу "доброжелателя" окружной комиссии стало известно, что избирателям были вручены бесплатно всего **два (!)** экземпляра газеты "Рэспубліка" на общую сумму примерно 600 рублей.

Только глухой не мог не услышать песни на бесплатном концерте во Дворце спорта для почти пяти тысяч зрителей, продублированный затем по каналу Белорусского государственного телевидения в день накануне референдума. Эти действа заслуживают отдельного разговора.

Трудно было не узнать и про обещания А. Лукашенко выделить для улучшения жизни людей 1 млрд. долларов.

Невозможно было обойти вниманием и торговлю продуктами питания на избирательных участках в день голосования по сниженным на 20—25 процентов ценам. А пиво, чай, кофе во многих местах наливали вообще бесплатно.

Только по этим причинам, имеющим существенное влияние на итоги референдума, его результаты не могут быть признаны.

Так, товарищи мидовцы, в какой стране были в это время уважаемые наблюдатели от СНГ?

Другое дело — наблюдение от ОБСЕ. Эксперты Бюро по демократии и правам человека ОБСЕ представляли крупнейшую международную организацию, включающую в себя 54 страны трех континентов. БДИПЧ имеет большой опыт наблюдения за выборами во многих странах мира, высоко подготовленный персонал для ведения такой работы. Наблюдатели ОБСЕ глубоко изучили Избирательный кодекс Республики Беларусь. Часть из них прибыла в страну заблаговременно. Был проведен мониторинг деятельности СМИ на этапе агитационной кампании. Представители ОБСЕ присутствовали на всех заседаниях Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов, а также при рассмотрении значительного количества жалоб кандидатов в депутаты в Верховном суде. Группа БДИПЧ открыла офис, куда постоянно стекалась информация о ходе подготовки к выборам непосредственно от избирателей. Таким образом, делом занимались профессионалы, а не любители. Естественно, что доверия к результатам такого наблюдения будет больше.

В заявлении МИД Беларуси подчеркнуто: "Для наблюдения за проведением выборов и референдума в Республике Беларусь были созданы все необходимые правовые и организационные условия. Взаимодействие с международными наблюдателями осуществлялось в духе полной открытости и сотрудничества, что было отмечено в отчетах как миссии СНГ, так и БДИПЧ ОБСЕ". Видимо, не успели европейские партнеры включить в свой отчет беспрецедентный случай выдворения с помощью милиции с избирательного участка руководителя группы по Беларуси Парламентской ассамблеи ОБСЕ Уты Цапф, которая, кстати, была одним из инициаторов восстановления статуса в данной Ассамблее белорусской Палаты представителей. Не попали в этот отчет и впечатления наблюдателей из Великобритании и Эстонии, опозоренных белорусским телевидением, которое в очередном своем идеологическом "шедевре" практически обвинило их в шпионаже.

Не совсем корректно и не до конца объективно изложена причина того, почему миссия БДИПЧ ОБСЕ не осуществляла мониторинг референдума. Думается, что совсем не ограниченность ресурсов была главной причиной отказа от наблюдения за референдумом. Достаточно познакомиться с заключением Венецианской комиссии, чтобы понять, почему не заинтересовал республиканский референдум европейских экспертов.

Вызывает особый интерес та часть Заявления, где говорится о "сделанных Беларусью последовательных шагах по улучшению выборного процесса". Если речь идет о попытке введения института членов Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов, то, как непосредственный участник процесса, могу заявить следующее. По достоинству можно оценить только желание что-то изменить к лучшему. А на деле полномочия членов комиссии, представлявших в ходе этой кампании политические партии, участвовавшие в выборах, мало чем отличались от полномочий стульев, на которых они сидели. Можно было выступать, спрашивать, все предлагать, но ничего не решать.

Если постоянным членам ЦИК на заседания представлялись все материалы проверок жалоб кандидатов в депутаты, то представителям оппозиции, обладающих правом совещательного голоса, давали только перечень вопросов порядка дня и списки приглашенных.

Членам комиссии от партий не позволили участвовать в обсуждении вопросов, касающихся референдума, даже не пригласили их для участия в заседании по подведению его итогов.

Можно ли говорить о реальности нашего участия в делах ЦИК, если Декретом президента было запрещено даже участие партийных членов комиссии в проведении проверок.

Так что исполнили мы с коллегами роль свадебных генералов, декораций, изображающих представительство на политической сцене оппозиции. А главную роль сыграли Л. Ермошина и Н. Лозовик, за предложения которых остальные члены комиссии безропотно голосовали. В нашем присутствии было рассмотрено около 170 жалоб, и только в трех случаях (?!) постоянные члены ЦИК голосовали не единогласно.

И уж совсем не придает авторитета дипломатическому корпусу Беларуси акцент на Заявление о состоянии дел в ОБСЕ, принятом на саммите государств — участников СНГ в Москве 3 июля 2004 года. Внутренние процедурные дела ОБСЕ — это не аргумент, подтверждающий необъективность оценки выборов и референдума в Беларуси. Да и финал с угрожающим тоном последнего абзаца заявления о том, что Беларусь будет последовательно выступать за реформу ОБСЕ, в данном случае кажется абсолютно некорректным.

Таким образом, неуклюжие попытки государственных учреждений, ведомств и монополизированных СМИ только усугубляют возможные последствия нашей политической кампании.

## Абнаўляецца парк аўтобусаў

У сярэднім на 20 працэнтаў плануецца абнавіць парк пасажырскага транспарту аўтатранспартных прадпрыемстваў Гомельскай вобласці ў 2004 годзе, паведаміў генеральны дырэктар РУП "Гомельаблаўтатранс" Аляксандр Драпеза.

Паводле яго інфармацыі, да канца гэтага года будзе атрымана 100 новых аўтобусаў МАЗ. Выкарыстоўваючы лізінгавыя схемы, перавозчыкі рэгіёна атрымалі магчымасць набыць новую тэхніку ў растэрміноўку.

Акрамя таго, транспартныя прадпрыемствы атрымалі магчымасць спісваць аўтобусы, што эксплуатуюцца больш за 20 гадоў. Такім чынам, аўтобусны парк Гомельскай вобласці будзе абноўлены на 60 працэнтаў.

**Алена ПАСКАННАЯ.**
**Фота photo.bymedia.net**

ТАК БЫЛО...

## Як міліцыянты вывелі мяне з выбарчага ўчастка

Выконваючы абавязкі даверанай асобы Валерыя Арцішэўскага, я ў дзень выбараў завітаў на ўчастак № 457, які размяшчаўся ў сталічнай школе № 95. Не паспеў агледзецца, як да мяне падышоў старшыня выбарчай камісіі і стаў высвятляць, хто я такі і што тут раблю. Пасведчанне даверанай асобы на яго ніяк не падзейнічала. Ён запытаў, ці зарэгістраваўся я ў якасці назіральніка. Маё тлумачэнне, што пасведчанне выдана акруговай камісіяй і яно дае мне права прысутнічаць на любым выбарчым участку, ён і слухаць не стаў.

Спадар Цароў (так завуць старшыню) разгарнуў Выбарчы кодэкс і прачытаў, што даверaная асоба мае такія правы, як і назіральнік. Адсюль ён зрабіў выснову, што я павінен быў зарэгістравацца ў якасці назіральніка. А калі гэтага не зрабіў, то я ніхто, пабочны чалавек, і — "прашу пакінуць памяшканне". Ён камусьці махнуў рукой, і раптам, як з-пад зямлі, узніклі два міліцыянты, ухапілі мяне пад рукі і павялі з будынка.

Гэтае беззаконне ўзмацнялася тым фактам, што ў гэтым жа памяшканні, на другім паверсе, размясціўся выбарчы ўчастак № 458, дзе я зарэгістраваны ў якасці выбаршчыка. Атрымалася дзіўная карціна: у дзень выбараў два міліцыянты сілай выводзяць з выбарчага ўчастка грамадзяніна, які прыйшоў галасаваць.

Яшчэ адзін штрых. Сп.Цароў не стаў тэлефанаваць у акруговую камісію, каб разабрацца ў спрэчным пытанні. Мне прыйшлося шукаць тэлефон. У вахцёра школы ён быў, але на перыяд выбараў яго чамусьці адключылі.

З аўтамата на суседняй вуліцы я патэлефанаваў у акруговую камісію і, нарэшце, інцыдэнт быў вычарпаны. Але ў выніку гэтага беззаконня я быў пазбаўлены магчымасці прысутнічаць падчас апячатвання ўрнаў для галасавання.

Гэты эпізод сведчыць, што на пасаду старшыні камісіі падбіраюцца людзі, якія гатовы лоб разбіць, але толькі б дагадзіць вышэйшаму начальству. Вядома, прадстаўнікоў дэмакратычных партый, рухаў, проста людзей з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй у камісіі не дапусцілі. І пры гэтым балбочуць яшчэ пра нейкія адкрытыя, свабодныя, дэмакратычныя выбары! Смеху варта...

**Яўген ЛУГІН, жыхар Мінска.**

ТАК ДУМАЮ

# Лукашэнка прыйшоў у касцёл, але вернецца ў царкву

21 кастрычніка па Беларускім тэлебачанні дэманстраваўся рэпартаж аб сустрэчы Лукашэнкі з іерархамі беларускага Касцёла. Ведаючы стаўленне сённяшняй улады да каталіцызму, неаднаразова агучаныя намеры захаваць дзяржаўны статус толькі для праваслаўных святаў, а каталіцкія — пазбавіць яго, гэтая "пілігрымка" ўспрымаецца як незвычайная. Так бы мовіць, факт па-за логікай падзей і падзея без дай прычыны.

Фармальнай падставай для візіту "праваслаўнага атэіста" ў архікатэдру беларускіх каталікоў — храм у гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі было віншаванне кардынала Казіміра Свёнтэка з 90-годдзем. А сапраўднай прычынай мне асабіста бачыцца неабходнасць падмацаваць сапсаваны апошнімі палітычнамі падзеямі і без таго вельмі спецыфічны імідж галоўнага чыноўніка дзяржавы. Вось, маўляў, на фоне размоў пра раскол у грамадстве, які нібыта выразна засведчылі выбары і рэферэндум, кіраўнік дзяржавы, вядомы сваімі праваслаўнымі схільнасцямі, дэманструе талерантнасць — сустракаецца з кіраўніцтвам Касцёла.

Касцёл у Беларусі адназначна асацыіруецца з заходнім культурніцка-палітычным вектарам. Такім чынам, гэту акцыю Лукашэнкі прапаганда можа прадставіць як жэст добрай волі ў бок Еўрасаюза, дзе зараз складаюць спісы невыязных чыноўнікаў Рэспублікі Беларусь.

Нават у адрэдагаваным тэлесюжэце было бачна, што сярод ксяндзоў Аляксандр Рыгоравіч адчувае сябе не так утульна, як у коле праваслаўных бацюшкаў. Ягонае красамоўства не мела ў рыма-каталіцкіх сценах таго эмацыйнага водгуку, якім Рыгоравіча звыкла адорвае паства ўладыкі Філарэта. Як мне падалося, Лукашэнка спрабаваў выглядаць сціплым і лагодным, але раз-пораз ён збіваўся на знаёмы ўсёй краіне тон селектарнай нарады, вучыў суразмоўцаў жыццю і маральнасці. Дарэчы, назваць іх суразмоўцамі можна толькі ўмоўна. Яны не надта імкнуліся падтрымліваць гаворку і ўсё болей дыпламатычна маўчалі. Калі б А. Пушкін быў карэспандэнтам на гэтай акцыі, дык, безумоўна, напісаў бы, што "народ безмолвствует".

Прапанову аб супрацоўніцтве Аляксандр Рыгоравіч агучыў ва ўласцівай яму жорсткай форме, паставіўшы Касцёлу катэгарычную ўмову: "Если будете любить Беларусь, как люблю ее я, и не будете заниматься расколом страны...". Мабыць, толькі з гэтага спіча каталіцкія іерархі і даведаліся, што ў вачах улады яны "раскольнікі", а што датычыць задачы "любить Беларусь по-лукашенковски", дык для хрысціяніна яна загадзя невыканальная.

Малаверагодна, што візіт А.Лукашэнкі да кардынала Беларусі будзе мець для Касцёла нейкія пазітыўныя наступствы. Гаварыць можна што заўгодна, але ўраўняць у правах Касцёл і Царкву для сённяшняга рэжыму было б занадта радыкальным крокам. Таму што гэта быў бы крок у Еўропу. Усё будзе, як было. Затое сайт Лукашэнкі ў Інтэрнеце ўпрыгожыцца эфектным здымкам — прэзідэнт побач з Казімірам Свёнтэкам. Я ж скажу так: Лукашэнка схадзіў у касцёл, але вернецца ў царкву.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

ПЕРЕПИСКА

*Уважаемый главный редактор!*

*Мое письмо Чрезвычайному и Полномочному Послу России в Беларуси г-ну А.В.Блохину получено в посольстве более месяца назад, о чем свидетельствует почтовое уведомление. Я исключаю даже возможность того, что Александр Викторович мог оставить его без ответа, так как он, безусловно, джентльмен. Видимо, по какой-то чисто технической причине он не смог его прочитать. Вашу же газету читают все послы, аккредитованные в Минске. Прошу оказать содействие в получении письма адресатом путем опубликования его в Вашей газете.*

*С уважением —*

***Юрий ВОРОНЕЖЦЕВ.***

# Письмо Чрезвычайному и Полномочному Послу России в Беларуси

Добрый день, уважаемый Александр Викторович!

Более десятка лет назад мы были представлены друг другу в Москве, и я использую это обстоятельство для неформального обращения к Вам. Делаю это в письменной форме, хотя проблемы, которые я собираюсь затронуть в письме, со многими послами основных стран, аккредитованными в Минске, имел возможность обсуждать при личных встречах.

Как гражданин Беларуси, весьма серьезно участвовавший в политической жизни наших стран в период приобретения ими независимости и активно занимающийся политикой сегодня, к тому же этнический русский, я весьма обеспокоен перспективами развития российско-белорусских отношений. У меня складывается впечатление, что в России так и не начали на должном уровне заниматься анализом текущей ситуации применительно к прогнозу даже недалекого будущего этих отношений.

Боюсь, что политика России в отношении Беларуси может привести к положению, при котором ее авторам придется через очень небольшой промежуток времени удивляться, почему Россия "потеряла" Беларусь точно так же, как до этого потеряла страны бывшей "народной демократии", Прибалтику, Грузию и т.д.

Ведь, в конце концов, логика исторического развития приведет к скорому краху нынешнего авторитарного режима. К власти в Беларуси неизбежно придет молодое просвещенное, цивилизованное поколение. В основном прозападно настроенное. Почему прозападно? Да потому, что в глазах его представителей Россия — это государство, оказавшее поддержку преступному режиму, на совести которого торможение развития страны и общества, гибель людей, изоляция от цивилизованного мира. Возврату демократии в Беларуси сегодня помогают (недостаточно активно, по моему мнению) только западные страны, но никак не Россия.

Россия же способствовала антиконституционному перевороту 1996 года, победе А. Лукашенко на недемократичных президентских выборах 2001 года, почти прямыми материальными вливаниями в режим постоянно поддерживает его жизнеспособность. Россия во многом несет ответственность за то, что происходит у нас.

Сегодня появилась возможность радикально исправить ситуацию. Как известно, А.Лукашенко вопреки Конституции (ст. 78 отсылает к Избирательному кодексу, прямо запрещающему плебисциты такого рода) назначил референдум по поводу своего бессрочного правления. Существует только два варианта реакции на это событие — поддержка вероломных, антиконституционных действий нынешнего диктатора (нейтралитет — это, разумеется, тоже поддержка) или четкое заявление о том, что с человеком, попирающим Конституцию, у приличных людей и стран не может быть никаких общих дел. Такое заявление, безусловно, окажет решающее влияние на исход референдума и на ситуацию в целом, восстановит доверие к России у думающей части населения Беларуси. Этим самым создаст предпосылки для нормальных отношений двух родственных народов в будущем.

Надеюсь, что в этот раз Россия выступит как великая европейская держава, оказывающая позитивное влияние на соседние государства, а не как слабая страна, боящаяся перемен у соседей и консервирующая по этой причине преступные режимы по известному принципу безусловной поддержки "нашего сукиного сына".

**С глубоким уважением —**

**Юрий ВОРОНЕЖЦЕВ, заместитель председателя Совета Союза Верховного Совета СССР (1991 г.).**

## От редакции

*Не будем вдаваться в подробности, почему Ю.Воронежцев не получил ответа от Чрезвычайного и Полномочного Посла России в Беларуси А.Блохина. Знаете Вы, уважаемые читатели, и о той официальной позиции, которую занял Кремль в отношении выборов и референдума в Беларуси. Вот только интересно, какую позицию займет Кремль сейчас, когда цивилизованное мировое сообщество взволнованно обсуждает ситуацию в нашей стране? Ситуацию, когда в центре Минска уже льется кровь...*

# БелАЗ гатовы забяспечыць

*Беларускі аўтамабільны завод здольны цалкам задаволіць патрэбы ў кар'ернай тэхніцы горназдабываючых галін Расіі і іншых краін СНД, што інтэсіўна развіваюцца.*

Паводле даных Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага горнага інстытута, з якім супрацоўнічае беларускае прадпрыемства, вытворчасць горназдабываючай прамысловасці краін Садружнасці павялічыцца да 2010 года ўдвая. Адпаведна будзе ўзрастаць і попыт на кар'ерныя самазвалы "БелАЗ". І Беларускі аўтазавод да гэтага гатовы, гавораць на прадпрыемстве.

За 9 месяцаў, у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года, экспартныя пастаўкі ў Расію павялічыліся ў 2,2 раза. Асноўнымі спажыўцамі тэхнікі з'яўляюцца прадпрыемствы Кузбаскага вугальнага басейна, Уральскага рэгіёна, Якуціі, Далёкага Усходу, Кольскага паўвострава, Курскай магнітнай анамаліі. У гэтых рэгіёнах эксплуатуюцца самазвалы грузападымальнасцю ад 30 да 220 тон. Акрамя таго, з'явіліся новыя спажыўцы беларускай вялікагрузнай тэхнікі на горназдабываючых прадпрыемствах Казахстана.

Для павелічэння аб'ёму выпуску аўтамабіляў БелАЗ скарачае тэрміны пастаноўкі на вытворчасць новай прадукцыі. Гэта стала магчымым пасля завяршэння двух этапаў тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**
**Фота photo.bymedia.net**

